

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 ЛІСТАПАД 16 Аўторак

№ 216 (651)

Цана 20 рублёў

## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### *НАША ЗДАРОЎЕ Ў РУКАХ... ПРАФСАЮЗА*

Нягледзячы на тое, што сістэма страхавання і сацыяльнай абароны насельніцтва церпіць змяненні, пытаннем аздараўлення беларускіх грамадзян увесь 1994 год будзе па-ранейшаму займацца Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі. Днямі з гэтай нагоды заключана пагадненне паміж ФПБ і ўрадам рэспублікі. У дакуменце адзначаецца, што ў гэтым выпадку ўрад бярэ на сябе толькі ўстаноўку памераў адлічэнняў на патрэбы аздараўлення з фонду сацыяльнай абароны насельніцтва і са сродкаў дзяржбюджэту.

Усім астатнім — утрыманнем санаторыяў і прафілакторыяў, арганізацыяй паездак, размеркаваннем пуцёвак і г.д. — будзе займацца прафсаюз.

Ірына ЛЕЎШЫНА.

### ДЕТСКИЙ БИЗНЕС ОГРАНИЧИВАЕТ «ВЗРОСЛЫЕ РАЗГОВОРЫ»

**В почтовых отделениях нас сегодня частенько встречает объявление «Нет жетонов». Чтобы прояснить ситуацию, корреспондент РИДа обратился к ведущему инженеру электросвязи Минской главпочты Нине Аксеновой.**

**— Нас снабжает жетонами Республиканская междугородная телефонная станция. 11 ноября при потребности почтовых отделений города около 40 тысяч жетонов нам поставили только 20 тысяч. 12 ноября — 30 тысяч. Но это — одна из причин. Вторая состоит в том, что юные минчане «делают бизнес» на жетонах. Жетон стоит 30 рублей, они же его продают в два–три раза дороже. Такое уже было на железнодорожном вокзале, на Комаровке. Население, боясь подорожания, скупает жетоны. Этот ажиотаж вокруг жетонов длится уже 2 недели. Раньше мы ограничивали их продажу. На такой шаг, наверное, придется пойти и сейчас.**

Анатолий РОМАНОВИЧ.

### □ КОРАТКА

*Пастановай Савета Міністраў Беларусі Пётр Чаус вызвалены ад пасады намесніка міністра абароны і прызначаны начальнікам Ваеннай акадэміі Узброеных сіл рэспублікі.*

* * *

*У Першамайскім раёне Мінска ўтвораны грамадскі камітэт аб'яднання дэмакратычных сіл «Вясна–94». У яго склад ўвайшло каля 50 чалавек. Як паведамілі БелаПАН у каардынацыйным камітэце «Вясны–94», чакаецца стварэнне падобных грамадскіх камітэтаў ва ўсіх раёнах беларускай сталіцы.*

### ЗАРПЛАТУ «З' ЕЎ» БЕНЗІН

Нягледзячы на павышэнне цэн на паслугі грамадскага транспарту з 20 лістапада, працаўнікі транспартнай галіны рызыкуюць не атрымаць зарплату за лістапад: расходы на паліва вельмі вялікія. Аб'яднанне «Мінскпасажыраўтатранс» у дзень расходуе на паліва 150 мільёнаў рублёў. У той час, як яму патрэбна 100 тон дызельнага паліва і 40 тон бензіну, кошт адной тоны якога ўжо перавышае мільён рублёў.

Ірына СЯРОПНА.

### «ПРИВИЛАСЬ» В СТОЛИЦЕ ДИФТЕРИЯ

**За последнее время в столице отмечен рост заболеваний дифтерией.**

**Как сообщили корреспонденту РИДа в городской санитарно-эпидемиологической станции, за десять месяцев текущего года таких случаев зарегистрировано уже 38, что в два раза больше, чем в прошлом году. Причиной роста заболеваемости, по мнению медиков, является приток инфицированных беженцев из стран СНГ, а также безразличие родителей к здоровью детей, не прошедших вовремя прививки. Ведь из почти сорока заболевших семеро — дети.**

Сергей РАСОЛЬКО.

### НАСТОЯЩИЙ ПАССАЖИР УЕЗЖАЕТ ЛИШЬ В ТРЕТЬЕМ АВТОБУСЕ. ПОКА...

В справедливости этих слов смогли убедиться в конце минувшей недели пассажиры одного из пригородных рейсов, отправлявшегося со столичной автостанции «Автозаводская».

Поданный на посадку автобус не смог даже тронуться с места. Пересев во вторую машину, пассажиры проехали лишь сотню метров, после чего автобус постигла участь предшественника. Замерзшие пассажиры со значительным опозданием все же смогли уехать из города на третьем автобусе, который «взяли штурмом», не дожидаясь водителя, после объявления диспетчером номера уходящей в рейс машины...

Кстати, как сообщили корреспонденту РИДа в ПО «Минскпассажиравтотранс», количество подвижного состава, выработавшего свой ресурс (фактически подлежащего списанию), составляет по объединению сорок процентов. Новых же машин в парк общей численностью около 2 тысяч автобусов с начала нынешнего года поступило лишь 13.

Сергей РАСОЛЬКО.

### КРЫМІНАЛ

#### *ХТО ДАЕ І ХТО БЯРЭ*

По звестках БелаПАН, у следчы ізалятар трапіў аўтарытэт мінскага крымінальнага свету, вядомы ў сваім асяроддзі пад мянушкай «Мірон». А затрыманы адзін з «куратараў» чорнага валютнага рынку за даванне хабару. Пад арыштам знаходзіцца і хабарнік — супрацоўнік мінскай ДАІ.





■ У ПРЭС-ЦЭНТРЫ МІНГАРСАВЕТА

## МІНІМУМ _ ГАРАНТУЕЦЦА. АСТАТНЯЕ _ ПА МАГЧЫМАСЦІ...

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

**Нараканні ў адрас як усяго гандлю, так і асобных яго праяў і прадстаўнікоў, звыклыя ў вуснах пакупнікоў. І, трэба прызнацца, падстаў для крытыкі пакуль яшчэ хапае. Але карткі і дэфіцыты — хутчэй вынік агульнага пагаршэння ў эканоміцы Беларусі.**

**Аб стане спраў у гандлі горада расказаў падчас чарговай сустрэчы ў прэс–цэнтры Мінгарсавета начальнік Упраўлення гандлю Мінгарвыканкама Л.Р.ВАЛАДЗЬКО.**

— Упраўленне не толькі дзеліць фонды, — адзначыў Леанід Рыгоравіч, — але і адшуквае ўсе верагодныя магчымасці, каб паліцы мінскіх магазінаў не пусцелі. Зрабіць гэта ў цяперашніх эканамічных умовах няпроста. Але, напрыклад, не было фондаў на алей, а Упраўленне здолела купіць яго 400 тон, каб забяспечыць дзіцячыя дашкольныя ўстановы.

Між іншым, прадуктаў харчавання (масла, хлеба, мяса, смятаны, малака) для мінчан і жыхароў прыгараду (2 млн. чалавек) па яго падліках хапае, калі не ўзнікае ажыятажны попыт. У мінулым годзе ў кастрычніку куплялі 360 тон хлебабулачных вырабаў у дзень, сёлета — 460 тон. Такія ўражанні, быццам увесь горад дружна сушыць сухары. Хоць цэны на хлеб і малако абяцалі пакуль не падымаць...

Журналісты пацікавіліся, як будзе весціся гандаль гарэлкай, маслам, цукрам у наступным годзе. Карткі спажыўца на 1994 год ужо надрукаваны, гэтыя пазіцыі ў іх ёсць, растлумачыў сп.Валадзько. Але, зыходзячы з наяўнасці тавараў, забяспечанасці імі, магчыма, што сістэма размеркавання па картках будзе ўведзена ў пачатку студзеня толькі на нейкія асобныя з іх. Карткі пакупніка ўскладняюць працу гандлёвых работнікаў, але, на думку начальніка Упраўлення гандлю, яны на карысць мінчан і з'яўляюцца якім-ніякім, а бар'ерам для вывазу гэтых тавараў за межы рэспублікі. Бо розныя цэны на масла, нават у самой рэспубліцы, няўмольна «вымываюць» гэты тавар туды, дзе яны вышэй.

З іншымі прадуктамі сітуацыя не менш складаная. Мясныя вырабы ў продажы ёсць, але толькі даволі дарагая ялавічына і птушка. Яек мінскіх птушкафабрык не хапае, і Упраўленне набывае частку іх у Магілёўскай і Гродзенскай абласцях; адсюль — значныя траты па транспарціроўцы. Фондаў на муку няма ўвогуле; тая, што ў продажы — закуплена самімі гандлёвымі фірмамі. Не вельмі вясёлыя справы перад Новым годам з шампанскім. Без асаблівых клапот пакаштаваць айчыннае шампанскае па дзяржцане можна хіба толькі тым, хто гуляе вяселле або адзначае юбілей. Калі верыць сп.Валадзько, жаніхі і нявесты, а таксама запрошаныя на вяселлі госці вып'юць за IV квартал трэцюю частку з адмераных Мінску 27900 дэкалітраў гэтага напою. Таму аўтар раіць мінчанам зрабіць навагодні прыпас загадзя, пакуль на дзяржаўных і прыватных прылаўках яшчэ ёсць не вельмі дарагія шампанскія і ігрыстыя віны (па 8-9 тысяч рублёў).

Чаму цукар у пачатку месяца ў розных гандлёвых кропках каштаваў па-рознаму? Аказваецца, хацелі зрабіць як лепш, аддаць пераходзячы запас цукру грамадзянам, якія карыстаюцца льготамі, але вымушаны былі па патрабаванню пакупнікоў прадаць яго ў агульным парадку. Надалей, калі ў пачатку месяца будзе розніца ў новай і старой цане якога-небудзь тавару, ён будзе цаацэньвацца і ісці ў продаж па новай цане.

Гандаль горада перабудоўваецца, трэсты пераўтварыліся ў фірмы, крамы перайшлі на арэнду ці атрымалі свой асобны рахунак, сталі юрыдычнымі асобамі. Усе арэндныя прадпрыемствы даюць прыбытак, які ідзе на мадэрнізацыю гандлёвага абсталявання. Але, на думку журналістаў, гэтыя змены пакуль не вельмі адбіліся на культуры абслугоўвання, багацці паліц. Начальнік Упраўлення паабяцаў узмацніць кантроль за гэтым.

Толькі думаецца, яшчэ не хутка настане час, калі найвышэйшым пакараннем для работніка гандлю з'явіцца не вымова ці штраф, а адсутнасць у краме пакупнікоў, якія пойдуць туды, дзе іх сустрэнуць ветліва, з усмешкай і прапануюць больш добрых тавараў. Аб гэтым можна толькі марыць. Пакуль жа вымушанае ўвядзенне картак зноў прывязвае нас да бліжэйшага гастранома, напрач пазбавіўшы свабоды выбару як шэрагу прадуктаў, так і крамы, дзе іх можна набыць. На жаль, карткі і дэфіцыты зноў і зноў даказваюць, што наша эканоміка марудна рухаецца да рынкавых адносін і адстае ад суседзяў.

### КАЛЯНДАР

**Аўторак, 16 лістапада**

*СОНЦА — 7.38/16.11.*

*Даўжыня дня — 8.33.*

*МЕСЯЦ — маладзік 13 лістапада,*

*усход 9.09/захад 16.53.*

**ІМЯНІНЫ**

*Сёння:*

*Праваслаўныя — Аіфала, Акепсіма, Язэпа.*

*Каталіцкія — МАЦІ БОЖАЕ ВОСТРАБРАМСКАЙ, МАЦІ БОЖАЕ МІЛАСЭРНАСЦІ.*

*Заўтра:*

*Праваслаўныя — Іаанікія, Нікандра.*

*Каталіцкія — Альжбэты, Самуэля.*

■ ТЭМА ДНЯ

### В СОВМИНЕ ГОТОВЯТСЯ К МИНЕ

12 ноября на сессии Верховного Совета республики спикер парламента С.Шушкевич, премьер-министр В.Кебич и председатель Национального банка С.Богданкевич выступили с докладами о социально-экономической и финансовой ситуации в государстве.

Глава ВС РБ С.Шушкевич высказался за скорейшее проведение приватизации, подверг критике правительство республики за отсутствие курса реформ, заявил о необходимости обновления кадрового состава Совмина.

Премьер-министр В.Кебич сообщил о намерении «на следующей неделе» внести ряд изменений в структуру и кадровый состав правительства. «Крайне тяжелой» назвал глава Совмина экономическую ситуацию в республике.

Председатель Нацбанка С.Богданкевич предложил ликвидировать убыточные предприятия, сократить либо полностью остановить наиболее энергоемкие производства, объявить расчетные билеты единственным платежным средством на территории Республики Беларусь.

Татьяна ЩЕБЕТ, РИД.

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в обменных пунктах коммерческих банков г.Минска и официальный курс, установленный Национальным банком на 16 ноября 1993 года

| Наименование банка | Доллар США | | | Немецкая марка | | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Покупка | | Продажа | Покупка | | Продажа | Покупка | Продажа |
| | Наличный расчет | Чековая книжка | | Наличный расчет | Чековая книжка | | | |
| Минское отделение АРКБ "Комплекс" | 3810 | 4190 4700 | 3940 | 2260 | 2480 2780 | 2340 | 2.85 | 3.05 |
| АКБ "Белбизнесбанк" | 3750 | 4125 | 3990 | 2200 | 2420 | 2400 | 3.10 | --- |
| АКБ "Белорусский народный банк" | 3700 | --- | 3850 | 2156 | --- | 2285 | --- | 3.20 |
| АКБ "Белпромстройбанк" (на 15 ноября) | 3700 | --- | 3820 | 2180 | ** | 2300 | --- | --- |
| АКБ "Беларусь" | 3975 | 4680 | --- | 2437 | 2880 | --- | --- | 4.50 |
| АКБ "Дукат" | Сведения не предоставлены | | | | | | | |
| АКБ "Поиск" | Сведения не предоставлены | | | | | | | |
| АКБ "Приорбанк" | 3870 | 4255 | 3920 | 2285 | 2510 | 2315 | 2.60 | 3.20 |
| КБ "Северо-запад" | 3822 | 4508 | 4500 | 2303 | 2400 | 2650 | --- | --- |
| Национальный банк РБ | 5305.00 | | | 3325.00 | | | 4.00 | |

■ ** -- не принимают ■ Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова". Тел./факс (0172) 31-04-02

■ ПАРТАКТЫЎ

### «ВЯСНА-94»: УПЛЫЎ ПАШЫРАЕЦЦА

Уласн. інф. «ДВ».

Днямі ў актавай зале сярэдняй школы № 137 адбылося ўтварэнне Грамадзянскага камітэта Аб'яднання дэмакратычных сіл «Вясна-94» Першамайскага раёна. У рабоце ўстаноўчага сходу прынялі ўдзел народныя дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасноў і Віталь Малашка, а таксама народныя абраннікі гарадскога і раённага ўзроўняў.

Удзельнікі сходу, большасць якіх складалі настаўнікі, выказалі пратэст супраць эканамічнай палітыкі ўрада. У прыватнасці, у галіне народнай адукацыі падтрымалі неабходнасць ажыццяўлення антыкрызіснай эканамічнай праграмы, датэрміновых выбараў, адстаўкі ўрада.

Старшынёй Грамадзянскага камітэта Першамайскага раёна быў абраны Віктар Талмачоў.

■ У МІНГАРВЫКАНКАМЕ

### ПРАСНАЧОК ДЛЯ ПІЛІПКІ

Тамара МАРКІНА.

**Клапоціцца горад пра сваю будучыню — нашых дзяцей. Ужо прывыклі бацькі не даваць сваім Волечкам і Толікам грошы на сняданак, бо жалезна ўпэўнены, што ў школе іх пакормяць. Адкуль у горада грошы?**

**Але ёсць грошы, ёсць. З пазабюджэтных фондаў. На мінулым тыдні Мінгарвыканкам прыняў чарговае рашэнне: сродкі, атрыманыя ад збору за паслугі ў гасцініцах і рэстаранах у суме 140 мільёнаў рублёў, направіць на пакрыццё экспрэс–снеданняў навучэнцаў агульнаадукацыйных школ. Сродкі размеркаваны па раёнах горада ў залежнасці ад колькасці школьнікаў. Найбольшую суму накіравалі ў самы густанаселены, багаты на новабудоўлі раён — Фрунзенскі. Яна склала 29 мільёнаў рублёў. На экспрэс–сеніданні для школьнікаў Заводскага і Маскоўскага раёнаў — па 20 мільёнаў рублёў. У школы астатніх раёнаў — крыху менш. Пры агульным збядненні нашых сямейных бюджэтаў праснaчок са шклянкай чаю для нашага кволага падрастаючага пакалення — вельмі добра.**

## Свежие Новости Городов СНГ

### МОСКВА

#### *ГОРБАЧЕВ «ОБЯЗАН»*

Как передал корреспондент РИДа, после более чем полугодовой волокиты Октябрьский районный народный суд Москвы принял решение по иску о защите чести и достоинства мэра Москвы Юрия Лужкова к бывшему Президенту СССР Михаилу Горбачеву.

Суть иска в следующем: в мае текущего года Михаил Горбачев, выступая по телевидению, обвинил правительство Москвы в том, что оно «строит в Подмосковье 10-12 дач, трехэтажные особняки». Юрий Лужков счел эту информацию не соответствующей действительности, порочащей честь и достоинство администрации Москвы, и обратился в суд. Михаил Горбачев ни разу не пришел на судебные заседания, за что дважды был оштрафован судом на 30 рублей. В отсутствие экс-президента СССР суд обязал его в течение месяца со дня принятия решения извиниться по телевидению перед правительством Москвы и опровергнуть свое высказывание.

#### *ВОЛЬНОМУ — ВОЛЯ! ШКОЛЬНИКАМ РАЙ?*

**По сведениям агентства РИД, Министерство образования России приняло решение, согласно которому отныне каждая школа вольна сама устанавливать продолжительность каникул. Единственное условие: общая продолжительность каникул не может составлять менее 30 календарных дней.**

### САНКТ-ПЕТЕРБУРГ

#### *ПОСОРЕВНУЕМСЯ?*

Как стало известно корреспонденту РИДа, два американских фермера поселились в Волховском районе Ленинградской области. Они должны оказать поддержку российским фермерам, которым районные власти выделили 800 гектаров земли для ведения сельского хозяйства. И американцы, и двадцать один российский фермер получили одинаковые земельные наделы.

#### *СЛАДОК ХЛЕБНЫЙ «ПЛЕН»*

**Как передал корреспондент РИДа, минимум до 5 января будущего года в Санкт–Петербурге не произойдет полного освобождения цен. По решению мэрии, 80 процентов новой стоимости хлеба будет компенсировано из городского бюджета. Только до 30 ноября на это будет потрачено более 3 миллиардов рублей.**

#### *«ПОДАРИ» МНЕ, ГАДАЛКА, НАДЕЖДУ*

Уже несколько месяцев существует в Санкт-Петербурге гадальный салон «Дар». Он предлагает своим клиентам редкие виды карточных и хиромантических гаданий, а также астрологические прогнозы. По сообщению корреспондента РИДа, подобные предсказывания обходятся заказчикам от 4 до 10 тысяч рублей. Несмотря на явно не «подарочные» цены салон посещает около 150 человек в месяц. Может быть потому, что, как заявляют сотрудники «Дара», их прогнозы сбываются на 80-90 процентов?..

#### *«КОЛЕСА» ВЕДУТ НА КРИВУЮ ДОРОЖКУ*

**Как стало известно корреспонденту РИДа, сейчас на учете в спецдиспансерах Санкт–Петербурга находится 2731 лицо, потребляющее наркотики в немедицинских целях. На почве наркомании только за первое полугодие текущего года в городе совершено 1165 преступлений. Органами внутренних дел изъято более 200 килограммов наркотиков.**

РИД.

## *Навіны культуры*

### *ЗАЧАРАВАННЕ ПРАЦЯГНЕЦЦА*

На нашай памяці падобнае было ўсяго раз — з карцінамі славутага Глазунова, паказ якіх у Мінску працягнулі на пару тыдняў. І вось зноў: выстаўка нашага беларускага мастака Аляксея Кузьміча «Мадоны XX стагоддзя», якая экспанавалася ў Палацы мастацтваў, будзе адкрыта для гледачоў другі месяц запар — да канца лістапада. У наш цяжкі час, калі, здаецца, не да мастацтва, людзі ўсё-такі ідуць на сустрэчу з прыгожым. Асабліва ў выхадныя дні на выстаўцы незвычайна шматлюдна. Акрамя ўражання ад прыгажосці, якое ўзрушае і ачышчае душу, гледачы, і асабліва глядачкі, звярнулі ўвагу яшчэ на адзін эфект — сярод карцін Кузьміча ў жывых беларускіх мадон — так мастак называе ўсіх жанчын — знікаюць душэўныя цяжкасці і нават аблягчаюцца фізічныя пакуты, хваробы. Аб гэтым і не толькі — мноства запісаў у кнізе водгукаў. Па шматлікіх просьбах гледачоў і працягнута для ўсіх нас зачараванне чыстага мастацтва.

Ірына СЯРОПНА.

### *«ЯВЛЕНИЕ ХРИСТА» — У МІНСКУ*

**У мастацтве, як і ў эканоміцы, бартэр сёння не на апошнім месцы. Менавіта дзякуючы часоваму абмену карцінамі з Рускім мастацкім музеем Санкт–Пецярбурга ў Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі з'явілася магчымасць выставіць у адной са сваіх залаў дванаццаць эцюдаў Аляксандра Іванова, якія мастак напісаў да свайго сусветна вядомага палатна «Явление Христа народу».**

**Узамен такіх каштоўных экспанатаў з фондаў нашага музея ў Санкт–Пецярбург адпраўлена карціна Рыгора Чарніцова «Рускія мастакі ў Рыме ў 1842 годзе». Праўда, запрасілі яе не для дэманстрацыі ў горадзе на Няве. Работа Рыгора Чарніцова спатрэбілася Рускаму музею для арганізацыі ў Італіі выстаўкі рускіх мастакоў, творчасць якіх звязана з гэтай краінай.**

Віктар КУКЛОЎ.

■ У НАС У ГАСЦЯХ

## БЕСПАРТЫЙНАЯ АКАДЭМІЯ ЮРЫЯ ШЧАКАЧЫХІНА

Маргарыта СТАРЫХ, «ДВ».

У мінулыя выхадныя ў Мінску пабываў вядомы журналіст і грамадскі дзеяч Юрый Шчакачыхін. Мэта яго паездкі — знайсці на Беларусі людзей, якія падтрымалі б «Вышэйшую беспартыйную акадэмію» (Фонд падтрымкі творчай маладой інтэлігенцыі), прэзідэнтам і арганізатарам якой ён з'яўляецца.

Калі распаўся Саюз, самай безабароннай катэгорыяй стала творчая моладзь, — лічыць Ю.Шчакачыхін. І мэта Фонду падтрымкі — дапамагчы тым, хто не ўмее і не пойдзе ў камерцыйныя кіёскі гандляваць, каб выжыць.

— Толькі сваімі рукамі, знізу, бо надзеі на дзяржаву няма, можна ратаваць іх. Не хачу, каб таленавітыя маладыя хлопцы пакідалі краіну, таму што тады застануцца фашысты, — прызнаўся ён. — Масквічы самі вырвуцца, у іх магчымасцей больш. Хочам, каб у кожным горадзе былі такія «зялёныя лямпы», філіялы нашай акадэміі-фонду, каб той, хто мае патрэбу ў фінансавай падтрымцы цікавага праекта, ідэі, ведаў, куды стукаць.

Пачынаўся Фонд, які функцыяніруе ўсяго некалькі месяцаў, з нуля, без пачатковага капіталу. Аднымі з першых, хто падтрымаў яго стыпендыямі, былі М.Гарбачоў, Р.Ніксан, Ф.Міттэран, ЮНЕСКА (апошняя арганізацыя выдзеліла ў Фонд «Вышэйшай беспартыйнай акадэміі» 2000 долараў у год)... А ў савет увайшлі вядомыя пісьменнікі А.Сіняўскі, Б.Акуджава, пасол Расійскай Федэрацыі ў Францыі Ю.Рыжоў, Ю.Каракін, вядомы сацыёлаг І.Клямкін, гісторык М.Злобін, з журналістаў К. Прашуцінская, А.Любімаў, М.Шылаў...

— З такім унушальным спісам «высокіх асоб» і да бізнесменаў за падтрымкай смела можна звяртацца, — лічыць генеральны дырэктар Фонду А.Шаўчэнка.

Але заснавальнікі «Вышэйшай беспартыйнай акадэміі» даволі асцярожна і абачліва адносяцца да «грошадаючых», каб не звязвацца з мафіёзнымі структурамі, ды і з палітыкамі вуха трэба трымаць чуйна.

— Мы адмовіліся ад стыпендыі, якую прапанаваў у свой час віцэ-прэм'ер А.Руцкой для маладога гісторыка, — прызнаецца Ю.Шчакачыхін. — Нешта нас спыніла... Не хочацца рызыкаваць ідэяй дзеля палітыкі. Я лічу, што самыя дрэнныя свае гады прысвяціў палітыцы.

Але разам з тым заснавальнікі не адмаўляюцца зусім ад палітычных задач.

— З часам Фонд можа вырасці ў незалежную палітычную арганізацыю. — лічыць А.Шаўчэнка. — У рэспубліках будуць нашы людзі, якія падзяляюць нашы погляды.

— Так, адна з нашых мэтаў — выхаванне нейкай палітычнай культуры, эліты, якая, натуральна, апасрэдавана будзе праводзіць палітычную лінію, — працягнуў думку калегі Ю.Шчакачыхін.

Паколькі прычыны бедстваў творчай маладой інтэлігенцыі адны і тыя ж ва ўсіх рэспубліках, заснавальнікі «Вышэйшай беспартыйнай акадэміі» лічаць, што трэба ствараць яе ў рамках былога Саюза. Яны спадзяюцца, што некалькі аўтарытэтных людзей Беларусі ўвойдуць у савет Фонду, а яшчэ нехта возьме на сябе ролю каардынатара.

Паколькі магчымасці «Вышэйшай беспартыйнай акадэміі» пакуль абмежаваныя, яна падтрымлівае толькі маладых гуманітарыяў.

Разам з тым, нягледзячы на тое, што створана яна нядаўна, ужо некаторыя маладыя таленты атрымалі канкрэтную дапамогу. А ў планах на новы, 1994 год, ёсць і такая актуальная канферэнцыя — «Вырашэнне нацыянальных канфліктаў. Малады погляд», на якую будзе запрошаны С.Шахрай, некаторыя заходнія канфліктолагі.

Для тых, каго зацікавіць ідэя стварэння філіяла «Вышэйшай беспартыйнай акадэміі» з уласным банкам на Беларусі, паведамляем кантактны тэлефон: 63-12-90.

